2 Сколько стоит свадьба?
3 Лепшыя стралкі сабраліся каля Чапялёва
5 У фотааб'ектыве — слонімскія дзяўчаты



# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.





№32 (165). 3 — 9 жніўня 2000г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 85 руб.

# ПАЧАЎСЯ СУДОВЫ ПРАЦЭС

**1 жніўня ў Слонімскім судзе пачаўся працэс па крымінальнай справе, узбуджанай у мінулым годзе па факту знікнення слонімцаў Віталя Хамякова і Анатоля Фідрыка.**

Напомнім, што маладыя людзі зніклі ў ноч з 8 на 9 траўня 1999 года з дыскабара "Оскар". Доўгі час іх вышук не даваў вынікаў. І толькі ў лютым 2000 г. былі знойдзены целы Віталя і Анатоля, затрымалі і чатырох слонімцаў, якія мелі дачыненне да іх смерці.

На першым пасяджэнні, у аўторак, старшыня Судовай калегіі па крымінальных справах Гродзенскага абласнога суда Аляксей Цвяткоў на працягу амаль дзвюх гадзін агалошваў абвінавачанне заключэнне. На лаве падсудных, у адмысловай жалезнай клетцы, сядзелі чацвёра слонімцаў: 26-гадовы Уладзімір Расол, 27-гадовы Анатоль Зенаў, 25-гадовы Сяргей Новікаў і 33-гадовы Сяргей Крынчык. У зале суда прысутнічала і 20-гадовая жыхарка Баранавіч Алена Вільчкоўская, якая таксама праходзіць па гэтай справе.

Усе падсудныя абвінавачваюцца ў здзяйсненні злачынстваў адразу па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь. Напрыклад, Уладзімір Расол абвінавачваецца ў «вымаганні, здзейсненым арганізаванай групай», у «здзяйсненні катавання, здзейсненага арганізаванай групай», у «здзяйсненні наўмыснага забойства дзвюх асоб на глебе помсты з мэтай укрыцця іншага злачынства». У Анатоля Зенава, акрамя іншых абвінавачванняў, ёсць і «незаконны выраб, захоўванне і нашэнне зброі і боепрыпасаў». А вось былы міліцыянер Сяргей Новікаў абвінавачваецца таксама ў «перавышэнні ўлады і службовых паўнамоцтваў», у «неадназовым атрыманні хабару»...

Пасля агалошвання абвінаваўчага заключэння стала вядома, што трое падсудных (Зенаў, Новікаў і Крынчык) прызнаюць сваю віну толькі часткова, а двое (Расол і Вільчкоўская) цалкам не прызналі сваёй віны.

Працэс будзе доўжыцца на працягу жніўня. У сераду павінны былі пачацца допыты падсудных, пацярпеўшых і сведкаў. Пасля будуць даследавацца пісьмовыя матэрыялы справы.

"ГС" будзе паведамляць пра ход гэтага судовага працэсу.

**Сяргей ЁРШ**

## навіны

### "Спадарожнік" працуе кругласутачна

**З 1 жніўня слонімскі магазін "Спадарожнік" абслугоўвае сваіх наведвальнікаў кругласутачна.**

Магазін працуе штодзённа з 8 гадзін раніцы да 6 гадзін, а ў панядзелак — з 8 гадзін да 21.00. Трэба адзначыць, што гэта ўжо другі прадуктовы магазін у нашым горадзе, які працуе дзень і ноч.

### Адкрылася лаўка абразоў




Фота Віталя ПЛЯ

**У Слоніме на Брэсцкай вуліцы, каля магазіна "Верасок" адкрылася лаўка абразоў ад Свята-Успенскага Жыровіцкага праваслаўнага манастыра.**

Тут можна купіць абразы, Біблію, праваслаўную рэлігійную літаратуру, буклет пра Жыровічы і інш. Праўда, уся гэта літаратура на рускай мове. А дзе беларускамоўныя выданні?

### Узраслі інфекцыйныя хваробы

**У сувязі з летнім перыядам у Слоніме павялічылася колькасць страўнікава-кішэчных захворванняў.**

Пракаменціраваць гэты факт карэспандэнт "ГС" папрасіў урача інфекцыйнай бальніцы Аляксандра Севасцьяна.

Па ягоных словах, кожны год летам узрастае колькасць страўнікава-кішэчных захворванняў. Нійкай эпідэміі сёлета няма. Часцей за ўсё людзі атручваюцца прадуктамі харчавання, у прыватнасці, агароднінай і садавінай. Выпадкаў атручвання грыбамі пакуль яшчэ не было. Звычайна ў нашу бальніцу паступаюць у дзень па 2-3 чалавекі, летам — па 4-5. У асноўным гэта жыхары горада. На стацыянары цяпер лечыцца 56 хворых.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Установлены новые размеры пенсий

**С 1 августа в Беларуси повышаются размеры пенсий.**

Минимальная пенсия в августе, вместе с установленной правительством доплатой к ней, будет равна 15 тысячам 963 рублям.

Это на 10,8 процента выше минимальной выплаты в июле пенсионерам по возрасту, имеющим 25-летний, а для женщин 20-летний трудовой стаж.

С 1 августа, соответственно, возрастут и минимальные пенсии по инвалидности по случаю потери кормильца, социальные пенсии, а также размеры надбавок и повышений к пенсиям, установленные в процентном отношении к минимальной пенсии по возрасту.

**БелаПАН**

## здарэнні

### Набілі бабульку

**У вёсцы Савічы Слонімскага раёна злодзеі напалі на адзінокую 96-гадовую бабульку.**

Яны ўкралі ў яе гадзіннік і моцна набілі старую. Бабулька трапіла ў бальніцу, а злодзеі затрыманы.

### Пажар у Хмяльніцы

**У вёсцы Хмяльніца Слонімскага раёна ад сапсаванай электраправодкі загарэўся дом і хлеў.**

Хлеў згарэў поўнасцю, а вось дом пажарнікам удалося выратаваць ад агню, пацярпеў толькі дах. З хлява людзі паспелі яшчэ выцягнуць двое свіней і некалькі курэй.

### Памёр ад нажавога ранення

**У час застолля раней судзімы жыхар г. Слоніма нанёс удар нажом слонімцу Сяргею Л., 1977 года нараджэння.**

Пацярпеўшы быў дастаўлены ў бальніцу, дзе праз пэўны час памёр. Вядзецца следства.

### Загінуў ад электрычнага току

**Пры невядомых абставінах жыхар вёскі Міжэвічы Слонімскага раёна трапіў у трансфарматарную будку.**

Ён загінуў ад электрычнага току.

### Кралі залатыя вырабы

**Непаўналетнія на вуліцы Яршова ўкралі залатыя вырабы.**

Злодзеі выяўлены і затрыманы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Трагедыя ў Востраве

**Трагічнае здарэнне адбылося на мінулым тыдні ў вёсцы Вострава Слонімскага раёна.**

На тэрыторыі зернятока мясцовага калгаса "Рассвет" грузавік, гружаны збожжам, пераехаў праз хлопчыка-падлетка, які памёр на месцы. За рулём аўтамабіля знаходзіўся непаўналетні.

Абставіны трагедыі высвятляюцца.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

### Арестован при получении взятки

**В Гродно арестован преподаватель Гродненского госуниверситета.**

Он был задержан сотрудниками управления по Гродненской области Комитета по организованной преступности при МВД Беларуси и отделения экономической преступности Ленинского РОВД возле здания вуза с поличным при получении взятки в сумме 350$.

Преподаватель университета являлся членом приемной комиссии и получил деньги от жительницы одной из деревень Гродненского района за содействие в поступлении в это учебное заведение ее дочери.

**Ася КУНИЦКАЯ**






# УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД ПРЫНЯЎ АКТ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

**29 ліпеня ў Палацы культуры мінскага аб'яднання "Сукно" прайшоў Усебеларускі з'езд за незалежнасць.**

У яго рабоце прынялі ўдзел амаль паўтары тысячы дэлегатаў, якія прадстаўлялі ўсе рэгіёны краіны, шматлікія замежныя госці. З уступным словам на адкрыцці з'езда выступіў вядомы беларускі паэт і публіцыст Генадзь Бураўкін. Ён напомніў, што галоўная мэта форуму — "адлюстраванне адносін беларускага народа да дзяржаўнасці рэспублікі". Галоўнае, што, па яго словах, трэба зрабіць дэлегатам з'езда — гэта прыняць Акт незалежнасці Беларусі, у якім будзе адлюстравана воля народа. Час правядзення форуму быў выбраны не выпадкова, бо менавіта сёння існуе сур'ёзнейшая небяспека паглынання нашай краіны Расіяй і знішчэння беларускай дзяржаўнасці.

(Працяг на 2 стр.)



Фота IREX/ProMedia

*Пачатак Усебеларускага з'езда за незалежнасць. Мінск, 29 ліпеня 2000 г.*

# УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД ПРЫНЯЎ АКТ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ


Фота IREX/ProMedia

*Выступае паэт Ніл Гілевіч*

**(Пачатак на 1 стр.)**

Неабходнасць захавання суверэнітэту рэспублікі — асноўны тэзіс выступленняў удзельнікаў Усебеларускага з'езда. Сярод выступоўцаў былі: акадэмік Радзім Гарэцкі, паэт Ніл Гілевіч, экс-прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, прэзідэнт фонду "Дзеці Чарнобыля" Генадзь Грушавы ды іншыя вядомыя грамадскія і палітычныя дзеячы. Удзельнікам з'езда былі зачытаны віншаванні і звароты ад Зянона Пазьняка, Сямёна Шарэцкага, прэзідэнта Чэхіі Вацлава Гавела, старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы.

Удзельнікамі Усебеларускага з'езда былі прыняты Акт незалежнасці Рэспублікі Беларусь. За яго прагаласавалі ўсе дэлегаты форума, устрымаўся толькі адзін чалавек. У Акце незалежнасці прадстаўнікі з усіх рэгіёнаў краіны аб'явілі "незалежнасць і дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа" і прызналі "не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, накіраваныя на ліквідацыю ці абмежаванне суверэнітэту Беларусі". Суверэнітэт, адзначаецца ў дакументе, "не можа быць абмежаваны ці ліквідаваны праз рашэнні дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум".

Дэлегаты з'езда прызвалі ўсіх грамадзян Беларусі, усіх суайчыннікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэй Акта незалежнасці Беларусі, абараняць незалежнасць Айчыны, а парламенты і ўрады дэмакратычных дзяржаў, міжнародныя арганізацыі і сусветную грамадскасць — забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

Ад Слонімшчыны на Усебеларускім з'ездзе прысутнічалі 9 чалавек. Адны з іх былі вылучаны палітычнымі і грамадскімі арганізацыямі, іншыя — ад калектываў, з мітынгу гараджан і шляхам збору подпісаў. У панядзелак, 31 ліпеня, у рэдакцыю завітаў дэлегат з'езда ад Таварыства беларускай мовы слонімец Іван Карповіч, які падзяліўся сваімі ўражаннямі ад убачанага. Па яго́ных словах, на з'ездзе адчувалася, што адбываецца гістарычная падзея. Зала нават не змагла змясціць усіх дэлегатаў... Дарэчы, так сталася, што сярод дэлегатаў з'езда Іван Іванавіч спаткаў свайго былога вучня з Дзятлаўшчыны.

Восем чалавек прадстаўлялі на Усебеларускім з'ездзе Мастоўшчыну, а сярод іх было шмат моладзі. Прысутнічаў на мерапрыемстве і граф Прушынскі, ураджэнец вёскі Рагозніца Мастоўскага раёна, які значную частку свайго жыцця пражыў у Канадзе.

**Уладзімір ГЛОД, Сяргей ЁРШ, Язэп ПАЛУБЯТКА**


Фота IREX/ProMedia

*Дэлегаты з'езда перад пачаткам пасяджэння*

## "Репортер" вышел, пока без регистрации

**Журналисты гродненской газеты "Репортер" объявили о начале с 18 августа голодовки против произвола горисполкома.**

Коллектив редакции уже полгода пытается получить от руководителей Гродненского горисполкома документ о согласованности адреса издания. Без этого документа еженедельник не регистрируют в Государственном комитете по печати. По словам редактора газеты Анджея Писальника, исполнительная власть никак не объясняет свои отказы. Однако в неофициальных разговорах клерки искренне признаются: начальство считает, что городу не нужна новая независимая газета.

Журналисты "Репортера" пытались защищать свои законные права акциями протеста возле здания горисполкома. Первая такая акция состоялась 2 мая, когда сотрудники газеты, связанные веревкой и с заклеенными ртами, провели несанкционированный пикет. Затем к зданию горисполкома с плакатом на груди выходил вместе с маленьким сыном редактор Анджей Писальник. В дело вмешалось руководство Белорусской ассоциации журналистов, но конфликт продолжался.

Решение о проведении голодовки было принято после того, как горисполком в очередной раз отказался выдать нужный документ на право регистрации газеты. Городские власти уже проинформированы о предстоящей акции. А пока что редакция без регистрации напечатала бюллетень "Репортер" тиражом 299 экземпляров, что не запрещено законом. Читатели, в частности, узнали, что на защиту гродненских журналистов стали, кроме БАЖа, Белорусский ПЕН-Центр, московский Фонд защиты гласности, газета "Свободные новости" и коллеги из польской "Газеты Выборчей". Малоформатное издание начало помещать серию материалов о чиновниках горисполкома, которые своими незаконными действиями препятствуют регистрации газеты.

**Антон ЛАБОВИЧ**

## Як у Мастах прадавалі партрэты Лукашэнкі

**Падчас вядомай селектарнай нарады Аляксандра Лукашэнкі старшыні калгасаў і іншыя кіраўнікі Мастоўшчыны сабраліся ў студыі раённага вузла электрасувязі.**

У гэты час да будынка пад'ехала легкавушка з мінскімі нумарамі, салон якой быў запоўнены... партрэтамі Лукашэнкі ў рамках, пакрытых лакам. Мінскія камерсанты прапаноўвалі набыць свой тавар па 9800 рублёў за штуку. Але гэта была не канчатковая цана, бо пакупніку належыла заплаціць і падатак на даБаўлены кошт. Таму атрымоўвалася дзесьці 11 з паловай тысячы рублёў.

Адзін з камерсантаў звярнуўся да сходу з прапановай набыць партрэты, і гандаль пайшоў. Старшыні калгасаў набывалі тавар, але толькі па пералічэнню. Праз гадзіну мінскія "бізнесмены" з'ехалі ў іншы горад, а нарада працягвалася...

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

# АХ, ЭТА СВАДЬБА, СВАДЬБА!..

**"Я выхожу замуж", — радостно заявила мне по телефону подружка.**

Я искренне порадовалась за нее и посочувствовала ее родителям, так как на сегодняшний день, свадьба — очень дорогостоящее удовольствие.



Прежде всего, молодым понадобятся кольца, которые стоят около 50-60 тысяч. Свадебное платье напрокат — от 35 до 150 у.е., в эту стоимость входят все необходимые аксессуары: фата, веночек, украшения на машины, колье, букет, ленты почетным свидетелям, сватьям. Регистрация молодых в ЗАГСе — около 3 тысяч, венчание в церкви — 11 тысяч, в костеле — сколько пожертвуешь. Так же для свадьбы необходимы цветочки для подружек и друзей молодых. Не помешают и украшения на машины, например, шарики или ленты. Чтобы свадьба была нескучной, можно нанять тамаду, что обойдется где-то около 100 у.е. Не забудьте про костюм для жениха, туфли для молодых, платочки, колготки, ручники... Недешево будет стоить оплата помещения для проведения свадьбы, подарки для родственников жениха и, конечно же, продукты, чтобы накормить и напоить многочисленных гостей. А также прибавьте ко всему стоимость нарядов для молодых на второй день свадьбы, плату за автомобили, цветы, свадебное путешествие...

Итого — очень много. Конечно, все будет зависеть от ваших материальных возможностей.

Хорошо, если ваша свадьба окупится подаренными деньгами и подарками. Но, по словам уже прошедших это "испытание", такое происходит редко. Однако мне кажется, что на этот праздник, который желательно устраивать один раз в жизни, стоит потратиться, чтобы потом было про что рассказать детям и внукам.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

## Патрэбны спецыялісты для вёскі

**У Дзятлаўскім цэнтры занятасці ёсць заяўкі на розных спецыялістаў.**

Але найбольш патрэбны кадры для сельскай гаспадаркі: ветэрынарныя ўрачы, заатэхнікі, агрaномы, даяркі, трактарысты, пастухі. Аднак людзі ў вёску не спяшаюцца, бо там нізкі заробак і няма жылля.

## "Іграй, гармонік!"

**Так будзе называцца конкурс, які пройдзе ў Дзятлаўскім раёне.**

На яго з'едуцца больш за 20 гарманістаў з розных куткоў раёна. Конкурс адбудзецца ў Вензавецкім доме культуры. Пераможцы атрымаюць прызы.

## Шаленства зыходзіць ад жывёл

**У Дзятлаўскім раёне за першае паўгоддзе зарэгістравана 6 выпадкаў шаленства сярод лісіц.**

Нядаўна адзін шалёны сабака, які заразіўся ад лясных звяроў, пакусаў сабак у вёсцы Ведравічы і пасёлку Навасельня. Пацярпелі і два чалавекі ў Навасельні, якія знаходзяцца ў бальніцы.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Рекордное количество смертей при пожарах

**В Гродненской области зарегистрировано рекордное за всю историю местной пожарной службы количество смертей при пожарах.**

В первом полугодии жертвами огня стали 54 человека — на 16 больше, чем за аналогичный период прошлого года. По количеству смертей лидирует сельская местность.

В то же время самих пожаров в первом полугодии зарегистрировано 739 — на 77 меньше, чем год назад. 620 из них произошло в жилом секторе граждан. В результате полностью уничтожено 202 строения и 23 единицы техники, погибли 43 головы скота; материальные потери превысили 140 миллионов рублей.

4 пожара со смертельным исходом произошли в этом месяце. Последний из них был зарегистрирован 25 июля в деревне Большая Рогозница Мостовского района, где в результате неосторожного обращения с огнем во время курения погиб местный житель.

**Ася КУНИЦКАЯ**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік Віктар ВАЛАДАШЧУК
В.а. рэдактара Сяргей ЁРШ

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі ..........2-14-39
..........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы ..........2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапіс не рэцэнзаваць і не вяртаць. Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 2 жніўня 2000г. Час падпісання 7:00.
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы: 64042 (індывідуальная) 63818 (ведамасная)
Наклад 9000 экз.
Заказ № 2577

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

ГЛЫБІНКА

# ГІСТОРЫЯ ВАКОЛ НАС

**Вёскі Азярніца і Збочна размешчаны на захадзе Слонімскага раёна, каля мяжы з Зэльвенскім. Вядомыя яны найперш людзьмі, якія тут нарадзіліся. Але не толькі. Напрыклад, славуты беларускі пісьменнік Уладзімір Караткевіч увекавечыў у сваім рамане "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" Бяздоннае возера.**



*Азярніцкія дзеці*

Статыстыка сведчыць, што ў склад Азярніцкага сельскага Савета ўваходзіць восем вёсак з 1326 жыхарамі. Самая маленькая з іх — Ермалоўшчына, а самая вялікая — Азярніца, у якой пражывае 423 жыхары. Даехаць да Азярніцы трохі прасцей, чым да іншых вёсак Слонімшчыны: некалькі разоў на дзень ходзяць цягнікі са Слоніма і Зэльвы. Па выхадных днях курсіруюць і аўтобусы.

Некалі ў гэтай вёсцы жыў цудоўны і шчыры чалавек — паэт Алесь Сучок (Пётр Навумавіч Дабрыян). Ён пісаў вершы, пры польскай уладзе адсядзеў чатыры гады ў турме за беларускую патрыятычную дзейнасць, у час вайны ўдзельнічаў у партызанскім руху. Ужо сем гадоў няма яго сярод нас. Пётр Навумавіч пахаваны ў Азярніцы на вясковых могілках, а ў яго вялікім доме жывуць іншыя людзі...

Недалёка ад Азярніцы знаходзіцца яшчэ адна вёска — Збочна. Яна дала беларускай літаратуры таленавітае імя. Гэта Кандрат Лейка — драматург, паэт, празаік, педагог. Так сталася, што большую частку свайго жыцця ён правёў на Украіне, там і знаходзіцца яго магіла.

І цяпер ёсць у Збочна некалькі чалавек з прозвішчам Лейка.

У Азярніцкім куточку Слонімшчыны вабіць і кліча людзей яшчэ адно цудоўнае месца — Бяздоннае возера. Бытуе легенда, што на яго месцы некалі была вёска, якая... правалілася пад зямлю. А на тым месцы ўтварылася возера, якое людзі назвалі Бяздонным.

Вельмі любіў бываць на беразе Бяздоннага возера пісьменнік Уладзімір Караткевіч. Ён пісаў у рамане "Хрыстос прызямліўся ў Гародні": "Пад вечар мы прыйшлі на бераг Бяздоннага возера пад Слонімам і тут вырашылі начаваць. Возера было ўсё празрыста-чырвонае, гладкае, як люстра. І лясы вакол яго былі таксама зялёна-аранжавыя"...



*На вуліцы ў Збочна*

Побач з Бяздонным возерам знаходзіцца ўнікальны старажытны славянскі могільнік V-IX стагоддзяў. А недалёка — вёска Клепачы са сваім звычайным жыццём, турботамі і праблемамі.

Пра ўсе гэтыя прыгожыя мясціны, вёскі і іх жыхароў можна напісаць не адзін артыкул, а можа нават і кнігу. Бо праўду кажуць людзі: гісторыя вакол нас.

**Сяргей ЧЫГРЫН,**
**Віталь ГІЛЬ (фота)**

*Бяздоннае возера*

## Напалеонаўскія дні ў Гданьску

**Нядаўна ў Польшчы праходзіў фестываль "Напалеонаўскія дні ў Гданьску-2000", у якім прынялі ўдзел і нашы землякі Міхаіл Харчанка і Ігар Сапёлкін.**



*Міхаіл Харчанка (злева) з удзельнікамі беларускай дэлегацыі ў Гданьску*

Наогул Беларусь у Гданьску прадстаўлялі 35 чалавек, якія прыехалі ў Польшчу на аўтобусе спонсара — Мінскага шарыка-падшыпнікавага завода. У асноўным, гэта былі сябры ваенна-гістарычнага клуба "Мінскі пяхотны полк". У Гданьск прыехалі таксама дэлегацыі з Расіі і Літвы.

На працягу трох дзён у горадзе было сапраўднае свята. Спачатку ўдзельнікі фестывалю ў вайсковай форме часоў напалеонаўскіх войнаў урачыста прайшліся па гарадскіх вуліцах да ратушы, дзе іх вітаў сам мэр Гданьска. Перад імі выступілі і арганізатары мерапрыемства. Пасля ў гарадскім музеі прайшло адкрыццё выставы, прысвечанай Напалеону.

На другі дзень фестывалю ў форце Гродзіска адбылася "бітва напалеонаўскіх і рускіх войскаў". Сябры ваенна-гістарычных клубаў дакладна рэканструіравалі сапраўдную бітву, якая адбылася 1807 годзе на гэтым самым месцы. Трэба адзначыць, што арганізатары пастараліся на славу, таму было зручна назіраць за падзеямі шматлікім гледачам, а ўдзельнікам — дэманстраваць свае майстэрства і старажытныя строі.

**Сяргей ЁРШ**

## Кніга на кожны дзень




**У Мінску ў выдавецтве "Юнацтва" нядаўна выйшла кніга "Дзень за днём. Прыкметы надвор'я, а таксама народны каляндар-месяцаслоў".**

У гэтай кнізе народнай мудрасці змешчаны прымаўкі пра кожную пару года, прыкметы надвор'я, а таксама народны каляндар. У ім ідзе гаворка пра кожны дзень года: якое народнае свята на яго прыпадае, што прадказвае надвор'е ў гэты дзень ды інш. Трэба адзначыць, што аўтарам гэтай кнігі, багата аздобленай ілюстрацыямі, з'яўляецца Аркадзь Русецкі.

**Алег ШЭЛЕСТАЎ**

# ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ ПА СТРАЛЬБЕ ПРАЙШОЎ НА СЛОНІМШЧЫНЕ

**На мінулым тыдні ў Чапялёўскім вучэбным цэнтры праходзіў чэмпіянат Узброеных Сіл Беларусі сярод ваеннаслужачых па стральбе са штатнай зброі.**

У мінулым годзе падобны чэмпіянат праводзіўся ў Мар'інай Горцы, а сёлета — на Слонімшчыне. У спаборніцтвах удзельнічалі 12 каманд з усёй Беларусі (у кожнай камандзе было 8 чалавек). Яны прадстаўлялі ваенна-паветраныя сілы, супрацьпаветраную абарону, мабільныя сілы, Ваенную акадэмію ды інш. Трое слонімскіх вайскоўцаў выступалі ў складзе каманды 28-га армейскага корпуса.

Спаборніцтвы складаліся з чатырох практыкаванняў: стральба з аўтамата (АК-1 — 10 патронаў лежачы, АК-3 — па 10 патронаў лежачы, стоячы і з калена) і з пісталета (ПМ-1 — 10 патронаў, ПМ-3 — 3 разы па 10). У выніку, першае месца заняла каманда Ваеннай акадэміі, на другім месцы — каманда мабільных сіл, на трэцім — каманда 5-й брыгады спецыяльнага прызначэння з Мар'інай Горкі. Вайскоўцы 28-га армейскага корпуса былі сёмымі.

**Сяргей ЁРШ,**
**Віталь ГІЛЬ (фота)**











## Уборка хлеба — самая большая политика

**В ходе республиканского селекторного совещания по вопросам уборки урожая и заготовки кормов Александр Лукашенко потребовал выполнить на сто процентов государственный заказ по продаже хлеба стране.**

При этом он предупредил, что никаких ссылок на неблагоприятную погоду быть не должно. По мнению Лукашенко, уборка хлеба и есть та самая большая политика, о которой говорят оппоненты.

На проведение уборочной уже затрачено 38 миллиардов рублей. Известно, что во многих районах есть трудности с обеспечением горюче-смазочными материалами. В связи с этим Александр Лукашенко сообщил о решении для начала уборочных работ выделить из государственного резерва 20 тысяч тонн дизельного топлива и 10 тысяч тонн автомобильного бензина. А правительству страны дал поручение проконтролировать использование этих средств и доложить о выполнении мер по решению этой проблемы.

Лукошенко было дано поручение руководителям областей до 1 сентября рассчитаться с сельским населением по зарплате, особенно с теми, дети которых учатся в школе.

## Альтернативная служба

**Согласно распоряжению премьер-министра Беларуси Владимира Ермошина создана рабочая группа для разработки проекта Закона Республики Беларусь "Об альтернативной службе".**

В состав группы, которую возглавил председатель Комитета по занятости населения при Министерстве труда заместитель министра Дмитрий Ванеев, вошли специалисты Главного штаба Вооруженных сил РБ, министерств обороны, внутренних дел, юстиции, образования, труда, здравоохранения, госкомитета по делам религий и национальностей. Проект закона должен быть представлен на рассмотрение Совета Министров до 4 декабря 2000 года.

## ARCHE предупредили

**Государственный комитет по печати вынес предупреждение журналу ARCHE за его последний номер.**

Официальное основание предупреждения – за изменение названия издания (это был выпуск аналитическо-критического обзора "ARCHE-Скарына") и за то, что журнал распространяется также за пределами Беларуси (в номере были помещены координаты распространителей журнала в Польше, Литве и Украине).

Главный редактор издания Валерка Булгаков считает предупреждение необоснованным. Андрей Дынько, директор журнала, обеспокоен совпадением по времени "мягко-репрессивных" мер, принятых против журнала. Почти одновременно с предупреждением, говорит он, Белорусский Дом печати прекратил начатое печатание августовского номера журнала, посвященного белорусскому писателю Адаму Глобусу, а государственное книготорговое объединение "Белкнига" отказалось продавать предыдущий номер журнала, посвященный еврейской культуре.

Издатели ARCHE намерены обжаловать предупреждение в суде, а печатание перенести в одну из минских частных типографий.

**БелаПАН**

# АДКРЫТЫ ПОМНІК ГЕНАДЗЮ КАРПЕНКУ

**27 ліпеня на мінскіх Усходніх могілках быў адкрыты помнік Генадзю Карпенку, беларускаму дзяржаўнаму дзеячу, якога не стала 6 красавіка мінулага года.**

Падчас жалобнага мітынгу, у якім прынялі ўдзел каля сотні чалавек, выступіла жонка Генадзя Карпенкі Людміла, якая падзякавала прысутным за тое, што яны прыйшлі, і выказала шкадаванне з нагоды адсутнасці аўтара помніка скульптара Івана Міско. Людміла Карпенка не згадвала акалічнасці смерці мужа, але ў заканчэнне сваёй прамовы сказала: "Я хачу сказаць: няхай будуць праклятыя тыя людзі, якія ўчынілі гэта зладзейства і працягваюць гэта рабіць"...

Цырымонія на мінскіх Усходніх могілках скончылася спяваннем беларускага рэлігійнага гімна "Магутны Божа".

**Наталля ФУРСАВА**




Фота IREX/ProMedia

*Жонка Генадзя Карпенкі адкрывае помнік*

## Дзесяцігоддзе беларускага суверэнітэту

**Святкаванне дзесяцігоддзя прыняцця Дэкларацыі аб Суверэнітэце Рэспублікі Беларусь прайшло ў дзесятках гарадоў Беларусі.**

27 ліпеня ў Мінску на плошчы Бангалор з васемнаццаці да дваццаці двух гадзін адбыўся рок-канцэрт "Дзесяць гадоў – дзесяць хітоў" з удзелам вядомых беларускіх рок-гуртоў "NRM", "Новае Неба", "Камэлот", а таксама маладых калектываў. У Гродне свята было адзначана некалькімі пікетамі, урачыстым пасяджэннем і канцэртам у палацы "Юнацтва".

Пікеты і іншыя акцыі (напрыклад, вывешванне ў гарадах бел-чырвона-белых сцягоў) прайшлі ў іншых гарадах Беларусі (напрыклад, у Ваўкавыску і Воранаве). Некаторыя з іх былі сарваны міліцыяй.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Абрабавалі "Бацькаўшчыну"

**У Мінску на вуліцы Рэвалюцыйнай, 15 была абрабавана сядзіба Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".**

Ноччу невядомыя злачынцы ўзламалі замок і трапілі ў памяшканне "Бацькаўшчыны". Злодзеі забралі лазерны прынтар, тэлефон-факс і сістэмны блок камп'ютэра з базай дадзеных, у якой, між іншым, былі адрасы прадстаўнікоў беларускай дыяспары.

**Алег ТАЧОНЫ**

## ТБМ атрымаў папярэджанне

**Міністэрства юстыцыі Беларусі вынесла пісьмовае папярэджанне грамадскаму аб'яднанню "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ).**

У віну ТБМ ставіцца тое, што арганізацыя "карыстаецца бланкам, на якім прадстаўлена назва гэтай арганізацыі, якая не адпавядае статутнай". Адзначаецца таксама, што "на пячатцы арганізацыі размешчана сімволіка, якая адрозніваецца ад зарэгістраванай". Па словах старшыні ТБМ Алега Трусава, кіраўніцтва аб'яднання накіруе міністру юстыцыі запыт для высвятлення канкрэтных прычын папярэджання.

## Чикин стал председателем

**Александр Лукашенко назначил нового председателя Национальной государственной телерадиокомпании Беларуси. Им стал Виктор Чикин, занимавший до этого назначения должность заместителя председателя Мингорисполкома.**

Напомним, что Виктор Чикин является также лидером Коммунистической партии Белоруссии (КПБ). Недавно предшественник Виктора Чикина Григорий Кисель указом главы государства был назначен послом Беларуси в Румынии. Также стали известны два новых заместителя председателя Белтелерадиокомпании – Антон Рыбаков (бывший руководитель Могилевского телерадиообъединения) и Александр Зимовский – политический обозреватель телевидения.

# НОВЫ ЕПІСКАП БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

**Нядаўна ў Таронта (Канада) адбылася хіратонія новага епіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы Аляксандра Салагуба.**

Аляксандр Салагуб нарадзіўся ў Баранавічах. Скончыў Маскоўскія духоўную семінарыю і Акадэмію, а таксама аспірантуру гэтай акадэміі. Кандыдат багаслоўя. Скончыў таксама Экуменічны інстытут Сусветнай Рады цэркваў у Жэневе. Працаваў у аддзеле знешніх царкоўных зносінаў Маскоўскага патрыярхату: быў сакратаром прадстаўніцтва Маскоўскага патрыярхату пры патрыярху Антыяхійскім у Дамаску і сакратаром епіскапа РПЦ Гурыя ў Парыжы.

Летась ён пакінуў Расійскую Праваслаўную царкву (РПЦ) і перайшоў у Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную царкву (БАПЦ). Яго лёс у пэўнай ступені ўнікальны. У красавіку 2000-га года на працягу трох(!) тыдняў ён са свецкага чалавека стаў біскупам. Такіх выпадкаў, апрача гэтага, у XX стагоддзі ў сусветным Праваслаўі было толькі два. За такі кароткі час са свецкіх людзей станавіліся біскупамі толькі першы патрыярх Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы Міраслаў Скрыпнік і славуты канстанцінопальскі багаслоў, мітрапаліт Пергамскі Ян Зізіўмас. Такое здараецца, калі ёсць вялікая царкоўная і грамадская патрэба. Можна сказаць, што за ўсю гісторыю існавання БАПЦ – гэта самы адукаваны яе ўладыка.

У інтэрв'ю карэспандэнту Радыё Свабода епіскап Аляксандр расказаў пра гісторыю Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы, пра свае паўнамоцтвы і бліжэйшыя планы. Друкуем яго расказ са скарачэннямі.

– Пытанне аб кананічнасці БАПЦ свядома заблытана, як кажуць, зацікаўленым бокам – Расійскай царквой. Трэба адрозніваць вызнанне аўтакефальнага статусу царквы, якое ў гісторыі заўсёды адбывалася пры садзеянні нацыянальнага ўраду (а яго, як вядома, цяпер у Беларусі няма), і вызнанне святарства царквы. Епіскапат нашай царквы мае апостальскую пераемнасць і таму вызнаецца сусветным Праваслаўем. Зараз да друку рыхтуецца зборнік матэрыялаў аб гісторыі і сучаснасці БАПЦ. Гэты зборнік, як дар місійнага аддзела БАПЦ, бясплатна атрымае кожны праваслаўны святар у Беларусі.

11 траўня ў Таронта з мітрапалітам Мікалаем мы правялі епіскапскую нараду, на якой разглядзелі шырокае кола пытанняў, актуальных для нашай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, і прынялі пастановы па іх. На мяне былі ўскладзены абавязкі сталага намесніка першаерарха БАПЦ, таксама я стаў старшынёй аднаўленага дзеля каардынацыі місіі сярод беларусаў на Бацькаўшчыне і па-за яе межамі Місійнага аддзела БАПЦ.

Найперш я буду дамагацца ўнутранай царкоўнай кансалідацыі, пераадолення трагічнага падзелу 80-х гадоў ва ўлонні БАПЦ, наладжвання парадку і ўмацавання царкоўнай дысцыпліны. У гэтым сэнсе вельмі важным будзе пасяджэнне Рады БАПЦ у лістападзе сёлета ў Гайленд-Парку. Рада БАПЦ падрыхтуе Сабор нашай царквы, які прыме лёсавызначальныя рашэнні для беларускага Праваслаўя.

Прыярытэтам сваёй дзейнасці я лічу місію ў Беларусі. Мы ўважліва сочым за падзеямі ў братняй Украіне, дзе працэс пабудовы памеснай Украінскай Праваслаўнай царквы і вызнанне яе аўтакефаліі Усяленскім патрыярхатам, дзякуючы рашучай і прынцыповай пазіцыі цяперашняга кіраўніцтва Украіны, імкліва ідзе наперад і, магчыма, ужо сёлета будзе дадзены да лагічнага канца.

Нас цешыць, што і сярод беларускіх нацыянальных элітаў, у тым ліку і ў палітычнай, ёсць кансенсус аб жыццёвай неабходнасці існавання БАПЦ на Бацькаўшчыне. Што датычыць дзейнасці Рыжага ў Беларусі, дык яна кампраметуе святую ідэю беларускай аўтакефаліі і аб'ектыўна дзейнічае на карысць Масквы. Не маючы ніякага дачынення да Праваслаўя, выкарыстоўваючы прагу праваслаўных беларусаў пазбавіцца духовага палону, ён уводзіць у зман па-багаслоўску неадукаваных людзей.

Усё гэта сведчыць пра тое, што пытанне стварэння царкоўных структураў БАПЦ у Беларусі наспела. Я хацеў бы звярнуцца да ўсіх шчырых прыхільнікаў беларускай аўтакефаліі ў Беларусі не толькі са словамі суцяшэння, але і з канкрэтнымі прапановамі працаваць разам на карысць беларускага Праваслаўя і Бацькаўшчыны.

**Паводле Радыё СВАБОДА**

## Американцы сомневались, но поверили

**Власти США склонны верить версии бывшего милиционера Олега Батурина о похищении его из Варшавы белорусскими спецслужбами, сообщило 26 июля влиятельное польское издание "Газета Выборча" со ссылкой на "хорошо информированный источник в правительстве США".**

Сначала американцы сомневались в истории с Батуриным и даже подозревали в нем провокатора, пишет газета. Но потом представители США получили информацию, что Батурин действительно был похищен, а в Минске ему позволили сбежать. "КГБ хотел его таким образом скомпрометировать", – заявил "Газете Выборчей" американский чиновник.

Другой представитель США, которого цитирует газета, говорит, что похищением Батурина режим Александра Лукашенко также хотел запугать оппозиционеров, отбив у них охоту к побегам за границу. "На примере Батурина КГБ показал, что может достать врагов даже в Варшаве", – сказал он.

**БелаПАН**

Газета Слонімская
3 — 9 жніўня, 2000г. № 32 (165)

# "ИНОРОДНОЕ ТЕЛО" В СЕМЬЕ

Известный артист состоял в браке с очень скромной порядочной женщиной. Она была по-настоящему способным, даже талантливым человеком. Но он считал, что ей лучше оставить любимое дело (она была концертмейстером в одном из известных музыкальных коллективов). И она оставила. Отдавала семье все свои силы. Не роптала и, возможно, в глубине души преклоняясь перед его талантом, считала, что он прав. Ведь кто-то должен жертвовать ради другого. Именно она создала ему тот островок благополучия, в котором он мог тихо-мирно творить себе вволю. А он почти не замечал ее.

Однажды в этот известный дом приехал друг мужа. Тоже известный артист, который уже много лет жил за рубежом. Он был поражен, ошарашен, "сбит с ног" ее обаянием. Он влюбился с первого взгляда. Он, как волшебник, мгновенно "просчитал" ситуацию. И понял: она лишь жертва. Сможет ли жертва подняться с колен? Любить вновь? История эта закончилась тем, что, уступая страстному натиску влюбленного, она сдалась.

Нет. Они не поженились. Она даже не разошлась с мужем. Она по-прежнему живет с ним бок о бок и по-прежнему создает ему уют и покой, чтобы он мог творить. Она раздвоилась, чтобы хоть на минуту стать счастливой. Почувствовать искреннюю привязанность другого человека. Ту самую любовь, которой муж наделял ее редко и скупо. Счастлива ли эта женщина? Вряд ли! Хотя неожиданный интерес к ее персоне основательно встряхнул ее, некогда такую инициативную оптимистичную энтузиастку. Она



даже стала продюсером собственного мужа. Благодаря ей он уже неоднократно гастролировал за рубежом. И теперь уж и не понятно, кто кого "тянет".

Можно ли осудить эту леди? Наверное можно, за то, что "решилась на любовника и при этом ведет двойную жизнь". Но ведь по большому же счету в жизни не все так однозначно. Она попросту спасала себя. Еще несколько пресных лет с ничего не замечающим мужем превратили бы ее в робота, лишенного собственных желаний. Это я к тому, что женщина отнюдь не всегда "заводит" любовника "из любопытства". Существуют и куда более глубинные причины. Вот об этом и поговорим сегодня.

Феномен "любовника" не столь уж редок. Примерно 40 процентов женщин хотя бы раз в жизни изменяли своим мужьям. Пусть даже однократно. Так почему же женщина, которой и в кошмарном сне не приснилась бы измена мужу, — изменяет? Для начала стоит ответить на вопрос: а что же такое измена?

Измена — это сексуальный контакт с другим мужчиной (женщиной). Подчеркиваю: именно сексуальный контакт. Ни просто флирт, ни романтические ухаживания, ни даже поцелуи при свечах изменой не считаются. Во всяком случае "роковой границей" считается секс с другим. Но как бы ни произошла измена, причины, по которым у женщины появляется новый "друг" при живом муже, на первый взгляд могут показаться разными. Тут и скука повседневности, и желание "проверить себя" и доказать, что еще на многое способна, а значит попробовать "на новенького". Тут, конечно же, и всепоглощающая страсть.

Иногда женщина решается завести любовника, чтобы отомстить мужу-изменнику. Или чтобы доказать себе, что еще "ого-го", что старость ей нипочем (в этом случае, как правило, разрыв в возрасте мужчины-любовника и дамы довольно-таки значимый). Бывает, что вступить в сексуальную связь женщину побуждает вовсе не "бешеное желание", а настойчивые домогания кавалера. Она идет на рандеву по принципу "лучше отдаться, чем объяснить, что не хочется". А бывает, как у Бунина в "Легком дыхании", женщина становится на круг порока по причине собственного любопытства. И втягивается "в игру", разрушая собственную жизнь. Но как ни многозначны причины, у всех у них один исток — обида! Жена прямо или подсознательно обижена на мужа за то, что тот не уделяет ей внимания, порой просто ее не замечает. Не замечает, что она Женщина!

Любой женщине необходимо мужское внимание. Ей необходимо чувствовать, что она прекрасна, что она нравится! И вдруг она встречает человека, который в отличие от мужа замечает все. Что у нее еще очень хорошенькая фигура, что разлет бровей девичий, что волосы пышные. Короче, ее начинает тянуть к "ценителю". Происходит как бы "короткое замыкание", и вполне возможен роман с изменой мужу. Но едва женщина разберется в своих чувствах и, главное, в причине, по которой изменила благоверному, она частенько пытается порвать и с мужем, и с любовником. Ведь измена, как ни крути, разрушает личность. Жить в состоянии раздвоенности очень непросто. Это сильнейший стресс. Если же женщина изменяет мужу, чтобы самоутвердиться, взамен она тоже получает стресс. И этот стресс — сильнейшее чувство вины перед мужем.

Нет ни одного аргумента в пользу того, что измена-де оздоравливает отношения в семье, чувства становятся ярче. Наоборот, внутреннее недовольство собой не позволяет женщине вести прежнюю жизнь. А открыться мужу, не желая при этом разводиться с ним, она просто не считает возможным. И правильно делает!

Итак, если женщина рано или поздно поняла, что "любовник ей ни к чему", и при этом понимает, что ни при каких обстоятельствах нельзя нарушить уверенность мужа в том, что она принадлежит ему и только ему, ей есть смысл пересмотреть свою жизнь. Попросту разорвать роман на стороне. Конечно, это в том случае, если леди абсолютно уверена в том, что жизнь "на два дома" ее не устраивает. А если нет? Тогда пусть продолжает в том же духе. Но рано или поздно все равно ей придется принимать решение. И свершится одно из двух: либо она станет женой своего любовника и разведется с мужем, либо "разорвет" связь с любовником и останется с мужем. Правда, возможен и третий, самый несимпатичный вариант: дама останется и без мужа, и без любовника. Вот над этим стоит задуматься многим особам женского пола. Ведь крушить — не строить.

Если женщина способна простить мужу измену, то мужчина — нет. Кроме, конечно, тех мужчин, которые заранее договариваются с женой о "свободном союзе". Женщина испытывает глубокое разочарование, когда после невнимательного мужа попадает в сети к столь же невнимательному любовнику. Никто не принуждает женщину разрушать собственную жизнь посредством "инородного тела" в ее еще существующей семье. Только она сама возлагает на себя вину и ответственность за собственные поступки.

**Мария РИПИНСКАЯ**

## Дзяўчынка, дзяўчына, жанчына, маці...

Хто будзе спрачацца супраць таго, што ў жыцця — жаночы пачатак? "Усё пачынаецца з Радзімы,"— сказаў паэт, але ж і Радзіма пачынаецца з жанчыны, з маці. Гэта яны, жанчыны, з'яўляюцца рухавіком прагрэсу, крыніцай натхнення, жыццядайным загадкавым цудам у імкненні чалавека да гармоніі і суладдзя з прыродай і самім сабой...

Фотааб'ектыў нашага карэспандэнта выхапіў з паўсядзённай будзёншчыны цудоўныя краскі, пекныя кветкі, якія заўсёды буйна цвілі на гэтай зямлі — слонімскіх дзяўчат.

**Мікола КАНАНОВІЧ, фота Віталя ГІЛЯ**











